„NIWA“ TYGODNIK BIAŁORUSKI — CENA 60 gr

# Ніва

№ 17 (113) БЕЛАСТОК, 27 КРАСАВІКА 1958 г. ГОД III

# Інтэрнацыянальная салідарнасць

Больш ста год мінула з таго часу, калі вялікія аснавапаложнікі навуковага комунізма Маркс і Энгельс у «Маніфесце Комуністычнай партыі» вылучылі і абгрунтавалі баявы лозунг: «Пролетарыі ўсіх краін, еднайцеся!» Гэтымі палымянымі словамі Маркс і Энгельс выразілі сутнасць пролетарскага інтэрнацыяналізма.

Пролетарскі, або соцыялістычны інтэрнацыяналізм — гэта ідэалогія і палітыка міжнароднай салідарнасці і ўзаемнай падтрымкі рабочага класа ўсіх краін у барацьбе за вызваленне ад соцыяльнага і нацыянальнага прыгнечання, за соцыялізм і комунізм, ідэалогія дружбы паміж народамі.

Аснавапаложнікі навуковага комунізма даказалі, што цяга рабочых да адзінства і брацкай салідарнасці — з'ява невыпадковая, што яна вырастае з аб'ектыўных умоў жыцця і барацьбы пролетарыята. Развіццё капіталізма раскolвае буржуазнае грамадства на два класы— буржуазію і пролетарыят, інтарэсы якіх у корані процілеглыя. Ва ўмовах капіталізма адбываецца канцэнтрацыя і цэнтралізацыя капітала, ператварэнне капітала ў міжнародную сілу. Таму, вучылі Маркс і Энгельс, і пролетарыяту, для таго каб ён мог выканаць сваю гістарычную місію — ліквідаваць усякі прыгнёт, дабіцца перамогі — неабходна міжнароднае адзінства, неабходна міжнародная салідарнасць.

Ідэі пролетарскага інтэрнацыяналізма атрымалі далейшае развіццё ў працах В. І. Леніна.

Ён правёў тытанічную работу па ідэалагічнаму ўзбраенню рабочага руху ясным разуменнем працілегласці паміж інтэрнацыяналізмам і нацыяналізмам. Мы, падкрэсліваў Ленін, праціўнікі нацыянальнай варожасці, нацыянальнай розні, нацыянальнага адасаблення. Мы — міжнароднікі, інтэрнацыяналісты.

Асабліва бязлітасна Ленін выкрываў абман і фальш у нацыянальнай палітыцы буржуазіі, якая пад прыкрыццём фраз аб «роўнасці» нацый ажыццяўляе самую бязлітасную, самую жорсткую эксплуатацыю каланіяльных і залежных народаў.

З перамогай соцыялістычнай рэволюцыі ідэі пролетарскага інтэрнацыяналізма набылі сілу дзяржаўных законаў.

Толькі ворагі рабочага класа могуць гаварыць, быццам пролетарскі інтэрнацыяналізм накіраваны супроць інтарэсаў Радзімы. Яшчэ ў перыяд першай сусветнай вайны Ленін выкрываў падобныя паклёпніцкія сцвярджэнні. Дастаткова ўспомніць яго славуты артыкул «Аб нацыянальнай гордасці вялікаросаў». З якім натхненнем гаварыў Ленін аб любві свядомых рабочых да сваёй радзімы, да сваёй мовы, іх клопатах аб лёсе сваёй краіны. У той-жа час Ленін паказаў, што правільна зразумелыя нацыянальныя інтарэсы супадаюць з соцыялістычнымі інтарэсамі пролетарыяў усіх краін.

XX стагоддзе ўвойдзе ў гісторыю, як век перамогі соцыялізма. Новы грамадскі лад ужо далёка вышаў за рамкі адной краіны і стаў сусветнай сістэмай.

Той факт, што сусветная соцыялістычная сістэма няўхільна ўмацоўваецца і набіраецца сіл, а капіталістычная сістэма страчвае свае пазіцыі, той факт, што з дня ў дзень умацоўваецца міжнародная салідарнасць працоўных, выклікае страх і злосць у лагеры імперыялізма. Імперыялісты не хочуць прымірыцца з няўмольным ходам гістарычнага развіцця, яны мабілізуюць усе сілы для аднаўлення сваіх пазіцый, прадпрымаюць адчайныя спробы павярнуць кола гісторыі назад.

Націску імперыялістычнай рэакцыі рабочы клас рашуча супроцьстаўляе сваю непераадольную інтэрнацыянальную салідарнасць, ён зноў і зноў абвяшчае: «Пролетарыі ўсіх краін, еднайцеся!»

## Добрабыт радзімы — праца нашых рук




*Першамайскі плакат (аўтар — Тадэуш Трапкоўскі).* *Фото — ЦАФ*

## ІНТЭРНАЦЫЯНАЛ

*«Інтэрнацыянал» напісаны ў 1875 годзе французскім паэтам Эжэнам Пац'е, удзельнікам Парыжскай Комуны.*

*«Інтэрнацыянал» перакладзены амаль на ўсе мовы свету. Ён з'яўляецца міжнародным пролетарскім гімам.*

*На беларускую мову ў 1921 годзе тэкст «Інтэрнацыянала» пераклаў Янка Купала, а ў 1935 годзе — Андрэй Александ..віч. Нядаўна Андрэй Александровіч зноў вярнуўся да свайго перакладу і ў значнай меры яго ўдасканаліў. Ніжэй друкуем новы варыянт перакладу Андрэя Александровіча.*

Паўстань, з'едланы сілай грознай,
Працоўны люд усіх краёў!
Бурліць абураны наш розум
І весці ў гнеўны бой гатоў.

Агнём зруйнуем да асновы
Свет лютых здзекаў, а затым —
Мы наш, мы свет збудуем новы:
Хто быў нічым, той стане ўсім.

Ніхто дабром не дасць збаўлення—
Ні бог, ні цар і не герой.
Даб'емся самі вызвалення
Сваёй уласнаю рукой.

Каб скінуць з плеч прыгнёт умела,
Нанесці свой смяротны ўдар, —
Жалеза ў кузні куйце смела,
Пакуль іскрыцца ў горне жар.

Закон — мана і здзек дзяржавы,
Падаткам жывяцца паны.
А наша моц і наша слава
Закуты ў ёрмы - кайданы.

Далоў атруту панскай ласкі,
Закон аб роўнасці — далоў!
«Няма правоў без абавязкаў
І абавязкаў без правоў!»

З нарабаваным час растацца.
Заводаў, шахт гаспадары.
Даволі весці гандаль працай,
Крывёй народнай, гандляры

У вашых банках захаваны
Здабыткі працы векавой.
Паўстань супроць магната • пана
Агнём бяры здабытак свой.

Каб нас няволіць, нам вяроўкі
Плятуць цары і каралі.
Салдаты справяць забастоўкі
Штыкі павернуць да зямлі.

Мы з рук не выпусцім аружжа,
Як кінуць нас за панства ў бой.
Вайна вайне! Мы выйдзем дружна
На зброд драпежніцкі вайной.

Мы ўсе, гартаваныя працай
Сусветнай арміі сыны,
Зямлёю будзем карыстацца —
Правы — у нас, далоў — паны!

Калі-ж расплатай загрукоча
Над прыгнятальнікамі гром, —
Нам будзе сонца жыватворча
Сваім праменным зззяць агнём.

Гэта бой наш апошні,
Наш рашучы паход,
Інтэрнацыяналам
З'еднаем людскі род.



*Б. І. Прапо..й Французскія дакеры.*

 

# Слаўны юбілей
## Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі

1 студзеня 1959 года беларускі народ будзе адзначаць сваё вялікае нацыянальнае свята — саракагоддзе ўтварэння Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

На старонках беларускага савецкага друку 8 красавіка г. г. быў апублікаваны важны гістарычны дакумент — пастанова Цэнтральнага Камітэта КП Беларусі «Аб 40-годдзі Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі», у якім асвятляецца слаўны шлях барацьбы і перамог народа за гады савецкай улады. У гэтым дакуменце адзначаюцца небывалыя дасягненні краіны, якія выявіліся ў паспяховым ажыццяўленні сацыялістычнай індустрыялізацыі, калектывізацыі сельскай гаспадаркі і небывалым росквіце навукі і культуры беларускага народа. Лічбы і факты, прыведзеныя ў пастанове, гавораць аб няўхільным развіцці Беларусі пад кіраўніцтвам Камуністычнай партыі, аб перавазе сацыялістычнай сістэмы гаспадаркі перад сістэмай капіталістычнай.

Вось некаторыя даныя, адлюстроўваючыя росквіт Беларускай дзяржавы. У 1957 годзе аб'ём прамысловай вытворчасці павялічыўся ў 25 разоў у параўнанні з 1913 годам. У краіне выпрацоўваецца электраэнергіі ў 800 разоў больш, чым у 1913 годзе. Узніклі зусім новыя галіны прамысловасці — станкабудаўнічая, трактарная, аўтамабільная, цукровая, тэкстыльная, шарсцяная і іншыя. Па вытворчасці некаторых відаў прамысловай прадукцыі Беларусь абагнала многія капіталістычныя краіны. Па выпуску, напрыклад, грузавых аўтамашын Беларусь абагнала Аўстрыю, Швецыю, Данію, а трактараў — Італію і Аўстрыю. На душу насельніцтва выпускаецца прыкладна столькі-ж металарэжучых станкоў, колькі ў ЗША і Англіі, і значна больш, чым у Францыі і Японіі.

У галіне сельскай гаспадаркі таксама адбыліся карэнныя змены. Яна ператварылася ў буйную механізаваную вытворчасць. На калгасных палях працуе каля 32 тысяч трактараў, 7,5 тысячы збожжавых камбайнаў і тысячы іншых першакласных машын. Няўхільна ўзнімаецца ўраджайнасць збожжавых культур, павялічваецца прадукцыйнасць жывёлагадоўлі. 4.023 калгасаў і 165 соўгасаў аснашчаны перадавой айчыннай тэхнікай.

Вялікія дасягненні беларускага народа і ў галіне культуры і навукі. Сацыялістычны лад адкрыў неабмежаваную прастору для росквіту творчых здольнасцей і талентаў народа. У краіне выхоўваецца свая нацыянальная, сапраўды народная інтэлігенцыя. У сучасны момант у народнай гаспадарцы працуе звыш 200 тысяч спецыялістаў з вышэйшай і сярэдняй адукацыяй. Да рэвалюцыі ў Беларусі не было ніводнай вышэйшай навучальнай установы, а цяпер у 24 Вышэйшых навучальных установах навучаецца звыш 54 тысяч студэнтаў. У Беларусі выраслі выдатныя вучоныя, пісьменнікі, артысты, кампазітары. Імёны некаторых з іх вядомы далёка за межамі рэспублікі.

Усе гістарычныя поспехі, дасягнутыя працоўнымі масамі, вывелі Беларусь на шырокую дарогу гістарычнага развіцця. Толькі дзякуючы Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, краіна змагла атрымаць сваю дзяржаўнасць і выйсці на светлы шлях эканамічнага і культурнага развіцця.

У сувязі з 40-годдзем БССР Цэнтральны Камітэт КП Беларусі ў сваёй пастанове прапануе правесці рад важных мерапрыемстваў, якія-б адзначылі гэты слаўны юбілей. Прапануецца сустрэць нацыянальнае свята беларускага народа новымі вытворчымі дасягненнямі, разгарнуць растлумачальную працу пры дапамозе радыё, друку і лектараў. У адзначэнні 40-годдзя прымуць, у прыватнасці, удзел Таварыства па пашырэнню палітычных і навуковых ведаў, Праўленне Саюза пісьменнікаў, Саюз мастакоў і Саюз кампазітараў БССР. У лістападзе — снежні 1958 года пастанова прапануе Акадэміі навук, Акадэміі сельскагаспадарчых навук, Інстытуту гісторыі ЦК КПБ, усім вышэйшым навучальным установам і інш. правесці спецыяльныя навуковыя сесіі. Прапануецца таксама адпаведным установам устанавіць гістарычныя месцы і ўвекавечыць памяць змагароў за Савецкую Беларусь.

Цікава і разнастайна будзе выглядаць наглядная прапаганда дасягненняў краіны ў выглядзе пано, стэндаў, вітрын, лозунгаў і г. д. У красавіку - верасні 1958 года прапануецца правесці ў Мінску дэкаду самадзейнага мастацтва БССР, а ў перыяд падрыхтоўкі і правядзення 40-годдзя прапануецца правесці выступленні музычных, харавых і тэатральных калектываў. У лістападзе — снежні 1958 года правесці дэкаду мастацкіх фільмаў, прысвечаных Вялікаму Кастрычніку, жыццю і дзейнасці У. І. Леніна. Рад іншых мерапрыемстваў выдатна ўзбагаціць праграму беларускага нацыянальнага свята.

У пастанове Цэнтральнага Камітэта КП Беларусі выказваецца ўпэўненасць, што працоўныя масы рэспублікі дастойна сустрэнуць слаўнае саракагоддзе БССР новымі дасягненнямі ў гаспадарчым і культурным будаўніцтве і ўнясуць свой уклад у вялікую справу будаўніцтва комунізма.

М-Ка



*г. МІНСК. Парк «30-годдзя БССР».*

## X пленум ЦК КП Беларусі

10—11 красавіка г. г. адбыўся X пленум Цэнтральнага Камітэта Комуністычнай партыі Беларусі.

Пленум разглядзеў наступныя пытанні:

1 Аб мерах па выкананню рашэння лютоўскага Пленума ЦК КПСС «Аб далейшым развіцці калгаснага ладу і рэарганізацыі машынна - трактарных станцый».

2. Аб ходзе выканання калгасамі і соўгасамі абавязацельстваў па вытворчасці і нарыхтоўках прадуктаў жывёлагадоўлі.

З дакладам па першаму пытанню парадку дня выступіў кандыдат у члены Прэзідыума ЦК КПСС, першы сакратар ЦК КП Беларусі тав. К. Т. Мазураў.

З паведамленнямі па другому пункту парадку дня выступілі сакратар Гродзенскага абкома КП Беларусі тав. Панамароў, старшыня выканкома Магілёўскага абласнога Совета дэпутатаў працоўных тав. Жылянін, сакратар Віцебскага абкома КП Беларусі тав. Лабанок, старшыня выканкома Мінскага абласнога Совета дэпутатаў працоўных тав. Міцкевіч, сакратар Гомельскага абкома КП Беларусі тав. Смірноў, сакратар Брэсцкага абкома КП Беларусі тав. Луцкін, сакратар Маладзечанскага абкома КП Беларусі тав. Кавалёў.

Па абмеркаваных пытаннях пленум ЦК КП Беларусі прыняў адпаведныя пастановы.

М. ГАЙДУК

## Еўфімі Хвёдаравіч КАРСКІ
### (1.I.1861—29.IV.1931)

29 красавіка 1958 года міне 27 гадавіна са дня смерці вялікага вучонага Еўфімія Хвёдаравіча Карскага, які амаль усё сваё творчае жыццё прысвяціў вывучэнню нашай беларускай мовы, літаратуры і народнай творчасці.

Выйшаў Еўфімі Хвёдаравіч з гушчы беларускага народа. Нарадзіўся 1 студзеня 1861 года ў вёсцы Лаша на Гродзеншчыне ў сям'і сялянскага настаўніка, але дзіцячыя гады правёў у вёсцы Ятры на Навагрудчыне, куды неўзабаве пераехалі бацькі. Потым пераехаў у вёску Бярозавец.

Дзеці такой інтэлігенцыі таго часу, як вясковы настаўнік пачатковай школы, не жылі ў выгодзе. Тым больш, што сям'я Карскага была вялікая — васьмёра дзяцей, а заработкі настаўніка вельмі ніклыя. Малы Еўфімка нічым не адрозніваўся ад сялянскіх дзяцей. З імі пасвіў быдла, бегаў раніцай за грыбамі, мёрз у асеннюю і зімовую сцюжу ў ліхенькай саматканай світцы і лыковых лапцях. І ўсюды бачыў ён аднастайны малюнак — беспрасветнае гора беларускага мужыка — хлебароба і побач пышныя палацы польскіх і рускіх памешчыкаў.

Жыццё забітага і цёмнага беларускага селяніна не бачыла ніводнага яснага праменчыка радасці і таму ён складаў свае казкі такімі прыгожымі, бо ўкладаў у іх сваю вялікую вечную надзею на лепшую будучыню; таму ў сваіх песнях і гульнях падчас сумных і жасных, падчас вясёлых, жыццерадасных выказваў свае думкі. Гэтыя цудоўныя песні і казкі, сакавітая народная гаворка, густа перасыпаная прыказкамі і прымаўкамі глыбока запала ў думку Еўфімкі. Разам з прыгожасцю роднай прыроды і хараством душы беларуса - селяніна ўракла яго, зачаравала. Горача палюбіў ён сваю родную мову, свае песні і казкі. Маламу хлапчуку ўсё здавалася цікавым і загадкавым.

З беларускім асяроддзем ён амаль ніколі не расставаўся. Пачатковую школу ён закончыў у Ятрах. Бацькам нехапала на адукацыю дзяцей у гімназіі і Еўфімка паступіў у духоўнае вучылішча ў Мінску. Гэта была агульна вядомая «бурса», дзе хоць і кармілі пратухлымі казённымі харчамі, але секлі розгамі штодня за кожную дробязь. Еўфімка ходзіць у «бурсу» у парваных чаравіках, латанай вопратцы, але вучыцца без заганы, кожны год пераходзіць у наступныя класы першым вучнем — выдатнікам.

Рана скончыліся ў Еўфімкі бестурботныя гады дзяцінства і юнацтва — іх у яго амаль не было. У часе навукі ў Мінску ён зарабляе заняткамі з дзяцьмі багатых мінскіх мяшчан, якія слаба вучыліся, а зароблены такім чынам грошы пасылае бацькам, каб купілі каня — аб якім марыла ўся сям'я на працягу гадоў.

З «бурсы» Еўфімі Хвёдаравіч паступае ў 1881 годзе ў Нежынскі гістарычна - філалагічны Інстытут. Ва ўспамінах сваіх сяброў студэнтаў яго постаць захавалася як самага працавітага і стараннага студэнта. Ён уставаў у пяць гадзін раніцы, калі ўсе студэнты спалі і займаўся; пасля лекцый, яго заўсёды бачылі схіленага над кнігай.

Мо' старраннасць і працавітасць беларускага селяніна выявілася ў ім? А можа родная мова, якую ніхто не хацеў прызнаваць сярод улад, заклікала яго да такой працы? А праца пачала даваць першыя вынікі. Ужо на другі год сваёй вучобы Еўфімі Хвёдаравіч надрукаваў навуковы артыкул, а цераз 2 гады, у 1885 годзе выйшла з друку яго першая навуковая праца, прысвечаная беларускай песні, гэта «Беларускія песні сяла Бярозаўца, Навагрудскага ўезда Гродзенскай губерні». Колькі шчырай радасці прынясла яна маладому вучонаму! 59 песень, якія ён сам запісаў на сваёй радзіме ад непісьменнай сялянскай жанчыны, былі надрукаваны і атрымалі дадатнія водгукі сярод вучоных.

Мары дзяцінства і юнацтва здзейсніліся. З гэтага часу малады беларускі вучоны ўсё сваё жыццё прысвячае вывучэнню беларускай мовы, літаратуры, народнай творчасці і жыцця самых беларусаў — стваральнікаў беларускай культуры. Карскі становіцца палымяным прапагандыстам роднага слова і нястомным збіральнікам беларускай песні. У 1886 годзе ён друкуе наступную навуковую працу аб беларускай мове: «Агляд гукаў і форм беларускае мовы». Гэта вынік яшчэ школьнага замеру — апісаць гаворку сяла, дзе ён правёў свае дзіцячыя гады.

Пасля паспяховага заканчэння Нежынскага Інстытута Карскі накіроўваецца працаваць у родны край, — несці асвету беларускай моладзі. У 1885 годзе ён пачынае працаваць настаўнікам у Віленскай гімназіі. Старанна рыхтуе лекцыі і праводзіць заняткі з моладдзю. У той-жа час няспынна працуе над вывучэннем беларускай мовы. Ён пільна сочыць за ўсім тым, што друкуецца ў рускім і замежным друку аб беларусах. Аднак друкавалася вельмі мала, а калі што і з'явілася — было накіравана супроць беларускай мовы, яе праву на самастойнасць і вывучэнне. Царскі ўрад не толькі не дапускаў назвы: «беларуская мова», нават слова «Беларусь» цар Мікалай І загадаў выкрэсліць і ніколі не ўжываць. Таму, калі выйшлі ў свет першыя

(Працяг на стар. 4)



 

